


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 7 (232) ТРАВЕНЬ 2017 ГОДА

БЕЛАРУСКІЯ АФАРЫЗМЫ

*Капацца ў мінулым – варушыць, набліжаць будучае*

*Ніл Гілевіч*

ПОМНІЦЬ!

# ТРАГІЧНЫ ЛЁС ЗНІШЧАНЫХ ВЁСАК ЗАСЛУГОЎВАЕ НАРОДНАЙ ПАМЯЦІ

**Колькасць улічаных спаленых вёсак Гарадоччыны за годы вайны павялічылася на дзве трэції і дасягнула 305 замест ранейшых 183. Гэта вынікае з Базы даных «Беларускія вёскі, спаленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны», якую стварылі да 70-годдзя Хатынскай трагедыі.**

Да 70-годдзя Хатынскай трагедыі Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь і Беларускі фонд міру пры падтрымцы Расійскага фонду садзейнічання актуальным гістарычным даследаванням «Гістарычная памяць» стварылі электронную базу даных «Беларускія вёскі, спаленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны ».

За сваю шматвяковую гісторыю Беларусь неаднаразова станавілася арэнай жорсткіх войнаў. Кожная з іх пакідала пасля сябе смерць і спусташэнне. Самай кровапралітнай стала Вялікая Айчынная вайна. Перамога ў ёй была дасягнута коштам вялікіх стратаў беларускага народа. Беларуская зямля прыняла ў сябе мільёны людзей загінулых не толькі на полі бою, але і метадычна, стрымана забітых падчас ажыццяўлення гітлераўцамі акупацыйнага рэжыму. Адной з формаў генацыду стала знішчэнне вёсак, часта разам з насельніцтвам. Электронная база даных «Беларускія вёскі, спаленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны» змяшчае звесткі аб беларускіх вёсках, знішчаных цалкам і часткова з насельніцтвам і без жыхароў.

У гэтай базе магчыма выбіраць даныя аб спаленых вёсках Гарадоцкага раёна, як у яго сучасных межах, так і ў межах даваеннага перыяду, а таксама па тэрыторыях Мехаўскага, Суражскага раёнаў, якія ў пасляваенны пекрыяд былі далучаны да Гарадоцкага раёна. Таксама базу даных магчыма глядзець і па гадах, калі адбываліся карныя аперацыі нямецка-фашысцкіх захопнікаў пад час Вялікай Айчыннай вайны.

Толькі калі глядзець па гадах, то ў межах сучаснага Гарадоцкага раёна ў 1941 годзе не было спаленых вёсак, у 1942 было знішчана 144 вёскі, ў 1943 — 92 вёскі, а ў 1944 — 4. Гэта значыць, што ў базе па гадах 240 вёсак Гарадоцкага раёна, а не 305, як за ўсе гады адразу.

Відавочна, што гэтая База даных заслугоўвае вывучэння і ўдакладнення зыходзячы з тых фактаў, што адносна больш 30 вёсак, уключаных у базу стаяць нулі наконт інфармацыі аб колькасці знішчаных дамоў і жыхароў. Гэта база заслугоўвае і вывучэння па тых архіўных матэрыялах на падставе якіх яны былі ўнесены ў гэтую Базу.

Але яшчэ большай працы трэба для складання мапы размяшчэння гэтых вёсак у межах 10 існуючых сельсаветаў Гарадоцкага раёна, каб сучасныя грамадзяне ведалі рэальныя лічбы палітыкі генацыду на тэрыторыі Гарадоцкага раёна, а не кіравалі «бутафорыяй» мемарыла спаленым вёскам у Вараб'ёвых гарах.

Відавочна, што гэты мемарыял варта рэканструіраваць зыходзячы з рэальных фактаў, якія былі ўсталяваны да 70-годдзя Хатынскай трагедыі. Тым больш, што ў гэтым годзе ідзе 75 гадавіна масавага знішчэння вёсак Гарадоцкага раёна, якое пачалося са студзеня 1942 года і ішло да лістапада 1943 года. Менавіта за гэты час на тэрыторыі Гарадоцкага раёна адбылося часы карных аперацыі фашыстаў: «Малпава клетка» — лістапад 1942,"Зімовы лес" — снежань 1942 — студзень 1943, «Шаравая маланка» — люты-сакавік 1943, «Перуновы клін І і ІІ» — сакавік 1943 г.

І не менш важна, каб памяць пра трагедыю гарадоцкіх вёсак прысутнічала на гарадоцкай зямлі ў выглядзе мемарыяльных знакаў на тэрыторыях існуючых сельсаветаў і калі магчыма на месцы знішчаных вёсак. Таксама варта, каб арганічнай часткай святкаванняў у Гарадку ў сувязі з падзеяммі Вялікай Айчыннай вайны было бы жалобнае шэсці знішчаных вёсак з шыльдамі аб іх трагічным лёсе ў годы нямецка-фашыскай акупацыі.

Памяць пра тую жудасную вайну не будзе поўнай, пакуль нашчадкі перамогі не будуць мець максімальна поўных ведаў пра трагедыю вёсак Гарадоцкага раёна ў 1942-1943 гадах, як у краязнаўчым музеі, так і ў кнізе памяці аб гэтай трагедыі..

**Леанід Гаравы**

ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO

БЮДЖЭТ 2017

# ПЛАНУЮЦЬ ПАВЯЛІЧЫЦЬ ПАСТУПЛЕННІ АД ШТРАФАЎ

**Гарадоцкі райсавет напрыканцы мінулага году прыняў раённы бюджэт на 2017 год у памерах 2016 года. У бюджэце запланаваны істотны рост паступленняў ад штрафаў — на 22,6%, а таксама найбольш істотна павялічаны выдаткі на адукацыю, ахову здароўя.**

Нацыянальны прававы інтэрнэт партал апублікаваў рашэнне Гарадорцкага райсавету № 131 ад 27 снежня 2016 г. «Аб раённым бюджэце на 2017 год». Адпаведна дадзенага рашэння упершыню за многія гада першапачаткова на 2017 год запланава аднолькавая колькасць выдаткаў з даходамі ў памеры 26 048 082,00 рублёў. На пачатку года магчыма казаць толькі аб першапачатковым варыянце бюджэта на гэты год, бо па практыцы апошніх гадоў амаль на кожнай сесіі райсавета ўносяцца праўкі ў зацверджаны галоўны фінансавы «закон» раёна.

Так было і ў мінулы год, калі лічбы бюджэта карэктаваліся ўвесь год. А па выніках году выдаткі устаноў раёна былі вышэйшымі чым даходы: 25 513 444,60 рублёў даходы, а выдаткі склалі 26 042 879,68 рублёў. І фактычныя лічбы першага планавання на 2017 год амаль такія ж як і па выдатках папярэдняга году: 26 048 082,00 рублёў.

Традыцыйна звяртаем увагу, што працягваецца рост штрафаў, якія запланавана сабраць з арганізацый і грамадзян у Гарадоцкім раёне. І калі ў мінулым годзе спачатку было запланавана сабраць 250 402,40 рублёў, а дэ-факта сабралі 206 854,69 рубля — вышэй апошняга ўдакладнення штрафаў, то у гэтым годзе дэпутаты «стартавалі» з яшчэ большай лічбы. Пры першым прыняцці бюджэту сабраць штрафаў за 2017 год плануецца аж 253 582,00 рублёў. Гэта на 22,5% вышэй мінулагодняга паказчыка, што сведчыць пра павелічэнне рэпрэсіўных дзеянняў праваахоўных і кантралюючых органаў у гэтым годзе. Але ж інакш і не можа быць у «паліцэйскай» краіне.

Сярод выдаткаў, якія вырастуць у 2017 годзе мусіць самы большы рост закладзены ў сістэме адукацыі. Калі ў мінулым годзе дэ-факта на сістэму адукацыі Гарадоцкага раёна было выдаткавана 9 258 549,87 рублёў, то ў гэтым годзе запланавана 10 171 659,00 рублёў. Адпаведна рост выдаткаў пргназуецца на 9,8% і гэта пры скарачэнні колькасці школ і вучняў у школах. Рост запланавана па ўсіх сектарах адукацыйнай палітыкі раёна, як у дашкольным выхаванні, так і ў сярэдняй школе, дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі і г.д.

Пры захаванні на мінулагоднім узроўні планеумых даходаў у бюджэт пакуль планууецца і павелічэнне выдаткоў на раённую сістэму аховы здароўя. На 2017 год запланавана выдаткаваць на медыцынскую дапамогу насельніцтву 5 528 950,00 рублёў супраць 5 318 666,99 рублёў, якія былі выкарыстаны ў мінулым годзе. Гэта будзе азначаць рост выдаткаў на ахову здароўя ў памеры 3,9%.

Безумоўна вышэй прыведзеныя лічбы не з'яўляюцца канчатковымі, але закладзеная тэндэнцыя адносных зменаў бюджэта на 2017 год хутчэй за ўсё будзе выконвацца.

**Леанід Гаравы**

БРАКАНЬЕРСТВА

# ПЕРШАЯ КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА РАСПАЧАТА

**Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету ў Гарадоцкім раёне дзяржінспектары злавілі двух мясцовых рыбакоў, якія пад час нераставання рыбы, карысталіся стаўнымі сеткамі.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі 2 мая на возеры Доўгім каля в. Халамерье супрацоўнікі Гарадоцкай міжраённай інспекцыі затрымалі двух жыхароў Гарадоцкага раёна. Браканьераў заспелі, калі яны выбіралі лескавыя сеткі. Пераклаўшы здабычу і снасці ў заплечнік, парушальнікі збіраліся адправіцца па хатах, але былі затрыманыя.

Мясцовыя жыхары незаконна вылавілі 20 асобін карася срэбнага і 13 больш рэдкага залатога, ўрон прыродзе пад час нерасту ацэнены ў 6700 рублёў. Кожны карась у сярэднім ацэнены ў 203 рубля.

Гарадоцкім аддзелам Следчага камітэта ўзбуджана крымінальная справа па ч.4 арт. 281 КК Беларусі, па якой прыдугледжваецца пазбаўленне волі на тэрмін да шасці гадоў.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

БЮДЖЭТ

# ВЫКАНАННЕ БЮДЖЭТА АПЫНУЛАСЯ З ДЭФІЦЫТАМ

**Гарадоцкі райсавет зацвердзіў выкананне бюджэту раёна за 2016 год з дэфіцытам у 529 435 рублёў. Пра гэта паведаміў Нацыянальны прававы інтэрнэт-партал Рэспублікі Беларусь, які размясціў адпаведнае рашэнне Гарадоцкага райсавета.**

31 сакавіка Гарадоцкі райсавет на сваёй сесіі прыняў рашэнне № 152 "Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні раённага бюджэту за 2016 год". У гэтым рашэнні адзначаецца, што ў 2016 годзе адбылося выкананне даходаў раённага бюджэту ў памеры 25 513 444,60 рубля, а выдаткі бюджэта склалі ў суме 26 042 879,68 рубля. Адпаведна перавышэнне выдаткаў над даходамі склала суму 529 435,08 рубля.

Варта адзначыць, што тыя лічбы раённага бюджэту, якія напрыканцы 2015 года былі зацверджаны рашэннем Гарадоцкага райсавета, за 2016 год каля дзесятка разоў змяняліся па дзесятках пазіцый артыкулаў бюджэту і ні воднай пазіцыі не засталося ў першапачатковым выглядзе. У выніку даходная частка бюджэту па дзейнасці ў раёне была зменшана ў прагнозах з 11 471 264,50 рублёў да 10 872 007,50 — амаль на 600 тысяч. Таксама аказалася зменшанымі ў прагнозах і паступленні ў раённы бюджэт з іншых бюджэтаў у выглядзе датацый і субвенцый з 16 254 474,00 рублёў да 14 681 942,00. А ў рэальнасці гэтыя паступленні ў бюджэт былі на 30 000 і 10 000 менш, чым планавалася.

Найбольшае разыходжанне ў прагнозах з рэальнасцю было ў атрыманні дахода ад продажы зямельных участкаў у прыватную ўласнасць. Планавалася атрымаць ад гэтай продажы 14 995,00 рублёў, а атрымалі толькі 4 358,05. Між тым дзяржаўныя арганізацыі сабралі больш штрафаў з арганізацый і грамадзян, чым было скарэктавана на канец года: запланавалі 206 813,40 рублёў штрафаў, а сабралі 206 854,69.

Сярод выдаткаў раённага бюджэта першае месца займае сістэма адукацыі, куды было выдаткавана 9 258 549,87 рублёў, потым сістэма жыллёва-камунальнай гаспадаркі і будаўніцтва — 5 703 432,64 руб., а далей ідзе ахова здароўя — 5 318 666,99.

Дэфіцыт раённага бюджэта ў 2016 годзе у памеры 529 435,0 быў пакрыты за кошт унутранага фінансавання пры наяўнасці астаткаў сродкаў бюджэта і атрыманне бюджэтных крэдытаў.

**Леанід Гаравы**

ГАНДЛЬ

# ЗНАЧНА ВЫРАСЛІ АБ'ЁМЫ ЗНЕШНЯГА ГАНДЛЮ

**Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэта ў Гарадоцкім раёне за першы квартал 2017 года экспарт тавараў вырас на 43,2%, а імпарт тавараў стаў у 2,5 разы больш, чым у 2016 годзе.**

За першы квартал гэтага году арганізацыі Гарадоччыны экспартавалі тавараў на 2 015,6 тыс. дал. ЗША супраць 1 407,5 тыс. дал. ЗША ў мінулым годзе, што склала 143,2 %. Адпаведна імпартных тавараў было ўвезена на суму 694,7 тыс. даляраў, што на 257,5% больш, чым у мінулым годзе.

Адпаведна пры высокіх тэмпах росту імпарта гандлёвае сальда раёна не магло расці так хутка, як раней. Сальда дасягнула 1 320,9 тыс. дал. ЗША супраць 1 137,7 тыс. дал. як ў мінулым годзе — рост на 16,1%. А увесь аб'ём знешняга гандлю, які ў асноўным вядзецца з Расеяй, вырас з 1 677,3 тыс. дал. да 2710,3 тыс. дал. — на 61,6%.

Палепшылася і фінансавае становішча арганізацый, якія ўжо не так стратна працуюць як у мінулым годзе. У 2016 годзе ў першым квартале страты ад дзейнасці былі 3 156 тыс. руб., а ў гэтым годзе толькі 622 тыс. руб. — змяншэнне стратаў больш чым у пяць разоў. Між тым пратэрмінаваная крэдыторская запазачынасць за кошт вялікіх працэнтных ставак працягвала расці хуткімі тэмпамі: з 34 633 тыс. рублёў да 55 002 тыс. рублёў.

**Л. Антонаў**

СУЧАСНЫ СЭРВІС

# ПРАГРАМА З БЯСПЛАТНАЙ ДАСТАЎКАЙ ТАВАРАЎ НА ДОМ

**З 27 красавіка яшчэ 416 населеных пунктаў Віцебскай вобласці ў тым ліку Гарадок і яго ваколіцы на аддаленасці каля 13 км атрымалі доступ да асартыменту сталічных гіпермаркетаў з бясплатнай дастаўкай на дом у межах праграмы "Еўраопта".**

Дадзеная паслуга стала магчымай дзякуючы працы адразу 2-х сэрвісаў: інтэрнэт-гіпермаркета «ГіперМолл», які ўжо ажыццяўляе дастаўку тавараў з доўгім тэрмінам захоўвання па ўсёй Віцебскай вобласці і сучаснаму онлайн сэрвісу інтэрн-гіпермаркет «Е-дастаўка», які палюбілі дзясяткі тысяч пакупнікоў за шырокі асартымент і прывабныя цэны.

Цяпер у Віцебскай вобласці «Е-дастаўка» працуе ў 548 гарадах і вёсках. У зону абслугоўвання ўваходзяць такія райцэнтры як Бешанковічы, Верхнядзвінск, Гарадок, Лепель, Мёры, Орша, Полацк, Расоны, Сянно, Чашнікі, Шуміліна, а таксама прылеглыя да гэтых гарадах населеныя пункты.

Жыхароў Віцебшчыны «Е-дастаўка» абслугоўвае штодня і дастаўляе пакупкі максімальна хутка. Пры наяўнасці свабодных слотаў час дастаўкі можа складаць ўсяго 2 гадзіны з моманту афармлення замовы! Мінімальная сума заказу — усяго 20 BYN.

Прагляд мапы абслугоўвання «Е-дастаўкі» можна тут https://e-dostavka.by/#/dzone/ . Па гэтай мапе зона абслугоўвання каля Гарадка дасягае такіх населеных пунктаў як Вархі, Маскаляняты, Скрыпкі, Астраўляны, Баталі, Пальмінка, Раманава, Ваўненкі.

У Інтэрнэт-гіпермаркеце Вы можаце замовіць дастаўку любых тавараў, размешчаных у каталогу на сайце e-dostavka.by , дзе маецца падрабязная інструкцыя замовы тавараў, якой неабходна трымацца дзеля таго каб пазбегнуць непаразуменняў..

Варта адзначыць, што заказы па тэлефоне не прымаюцца.

Зніжкі ад сумы заказу, прадастаўляецца на ўвесь асартымент тавараў * у любы час і ў любы дзень тыдня ў выпадку афармлення пакупніком замовы, згодна наступным умовам:

- Сума замовы да 400 000 руб. (Да 40 рублёў новага ўзору) — зніжка 0%;
- Ад 400.000 руб. да 600.000 руб. (Ад 40 да 60 рублёў новага ўзору) — зніжка 1%;
- Звыш 600.000 руб. (Звыш 60 рублёў новага ўзору) — зніжка 2%.

Таксама звярніце ўвагу, што алкагольныя і табачныя вырабы не дастаўляюцца.

**Л. Антонаў**

КРЫМІНАЛ

# ЗНАЙШЛІ ГРАМАДЗЯНКУ, ЯКАЯ ЎЧЫНЯЛА ПАДПАЛЫ

**Супрацоўнікі Гарадоцкага РАУС адразу знайшлі грамадзянку, што учыніла падпал у в. Вярэчча на пачатку красавіка.**

1 красавіка ў вёсцы Вярэчча адбыўся пажар хлява, уладальнік якога як раз прыехаў з Віцебску. Гэта быў мусіць шосты пажар недаглядаемых пабудоў у Вярэччы за апошнія тры гады.

Гаспадар з Віцебску сам пачаў тушыць полымя, а потым яму ў гэтым дапамаглі пажарныя, якія падаспелі з Гарадка.

Раптоўнае гарэнне хлява, як і іншых пабудоў ў вёсцы, падштурнулі супрацоўнікаў гарадоцкай міліцыі да актыўных пошукаў падпальшчыкаў чужой маёмасці ў Вярэччы. «Гарадоцкі веснік» паведамляе, што паводле слоў старшага следчага Гарадоцкага РАСК Яўгена Судніка, шкодніка ўстанавіла адразу, як кажуць па гарачых слядах.

Па версіі следчых ім аказалася мясцовая жыхарка 1988 года нараджэння, якая не здолела патлумачыць свае матывы дзеля здзяйснення падпалаў маёмасці аднавяскоўцаў. Зараз супраць падпальшчыцы ўзбуджана крымінальная справа па ч.2 арт. 218 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Маладой жанчыне пагражае крымінальная адказнасць у выглядзе абмежаванні волі да 5 гадоў або яе пазбаўленне на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў.

Варта таксама нагадаць, што 10 красавіка ў в. Мяжа по вул. Набережная 15 полымем была знішчана адрына, а таксама пашкоджана лазня з гаспадарчай пабудовай.

**Т. Гаражанка**

ТРАГІЧНАЕ ЗДАРЭННЕ

# ГРУЗОВИК СБИЛ ПЕШЕХОДА

**По информации пресс-службы Витебского областного управления МВД сегодня ночью в больнице скончался житель д. Хвошно, которого ночью сбил грузовик МАЗ**

По информации пресс-службы ДТП произошло 10 мая в 22.45 в д. Светлые Бычихинского сельсовета. Житель д. Ладышино (Шкловский район), управляя машиной МАЗ, сбил жителя д.Хвошно (Городокский район) 1980 года рождения, который был обозначен световозвращающими элементами.

От полученных травм 11 мая в 2.50 пострадавший умер в больнице. Проводится служебное расследование ДТП.

**Информация: http://uvd.vitebsk.gov.by**

НАВІНЫ СЕЦІВА

# КАНАЛ НАБИРАЕТ ПОПУЛЯРНОСТЬ

**Не прошло и года, как канал «Дневник врача Егорова» собрал уже более 10 тысяч подписчиков на youtube.com.**

В мае 2016 года Андрей Егоров, врач Веремеевской амбулатории, которая расположена по ул. Гагарина д. 36 в Городке, начал развивать свой канал на https://www.youtube.com

Сам доктор Егоров так написал на странице ВКонтакте: «Вот онмаленький чекпоинт! Почти год прошел как я выпустил свой первый ролик. В мае 2016 раза с 20-го я смог таки его записать и залить на свой канал. Как оказалось говорить на камеру „складно" не так уж и просто! Но все в этой жизни тренируется и научится можно чему угодно. Я никогда не рекламировал свой свой канал, а просто выкладывал видео в надежде, что людям это будет полезно! Познавательно-образовательные каналы сложно развиваются.... Поэтому я очень рад всем людям, которые смотрят меня! Спасибо вам!»

Пользователи так оценили канал доктора Егорова:

«Поздравляю! Развивай свой канал дальше! Разбирай интересные темы! Дальнейших успехов!»,

«Вы замечательный! Спасибо за много полезной информации!) Желаю успехов!»

«Присоединяюсь к поздравлениям! Отличный результат, Андрей! Желаю такого же, хоть не быстрого, но уверенного развития канала!»

«Мои поздравления! Понятно объясняешь, просто и без пафоса! Смотреть твои видео приятно и познавательно! Сделай как-нибудь видео о питании, белках и сколько их нужно в день съедать при натуральном треннинге!»

Следует сказать, что Андрей Егоров не только рассказывает о здоровье, но и демонстрирует способы тренировок своего тела. А состоянию его тела можно только позавидовать!

**Л. Антонов**

НАША ГІСТОРЫЯ

# САМАЗАБОЙЧЫ РЭФЕРЭНДУМ 1995-ГА

**Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі.**

Першы, але не апошні за гады праўлення сённяшняга кіраўніка Беларусі, рэферэндум адбыўся 14 мая 1995 года. Першы і... лёсавызначальны. Тактычна кіраўнік Беларусі тады перамог, стратэгічна — прайграў

Як мы памятаем, падчас рэферэндуму на галасаванне былі вынесены чатыры пытанні: аб замене нацыянальнай сімволікі, аб наданні рускай мове роўнага статусу з беларускай, аб інтэграцыі з Расіяй ды аб наданні прэзідэнту права роспуску парламента.

Ці былі вынікі галасавання аб'ектыўнымі? Спрэчкі ідуць дагэтуль. Пра працэнты, парушэнні, само права на рэферэндум з юрыдычнага боку. Пытанне ў іншым: ці магчыма наогул выносіць на галасаванне (ставіць пад сумнеў) прынцыпы, якія дазваляюць народу зваца народам і ў далейшым самастойна вызначаць свой лёс?

Адсоўванне нацыянальнай сімволікі ды мовы з дзяржаўнага ўзроўню стала для Беларусі самазабойчымі крокамі. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг на доўгія гады апынуліся па-за законам — за іх выкарыстанне тысячы людзей трапілі пад рэпрэсіі, гістарычныя сімвалы сталі фактычна забароненымі. Родная мова апынулася дэ-юрэ «роўнай» з расійскай, але дэ-факта — выкінутай з ужытку, нацыя анямела.

Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі. Маеш мову і гісторыю, пазначаную сімваламі, — значыць, маеш права на незалежную дзяржаву. Карыстаешся чужой мовай і бутафорыяй замест гісторыі — чакай гасцей. Прыклад Украіны, дзе пад удар Расіі трапілі акурат русіфікаваныя дэнацыяналізаваныя рэгіёны, — выдатнае таму сведчанне.

Пасля падзеяў у Крыме і ў Данбасе падалося, што дзяржава пачала разумець: перагнулі з чысткай усяго беларускага, трэба назад адкручваць. Але як адкруціш, калі дзеці з рускамоўных школаў не тое што размаўляюць — разумеюць па-беларуску з цяжкасцю? Як адкруціш, калі для тысяч сілавікоў, выгадаваных пры Лукашэнку, нацыянальныя сімвалы сталі аб'ектам нянавісці на падсвядомым узроўні?

Па вялікім рахунку, рэферэндум не проста ўзаконіў новыя герб са сцягам ды рускую мову, ён даў дабро на вынішчэнне ўсяго нацыянальнага пад корань. Нацыяналізм стае галоўным ворагам кіраўніка і ўсёй ягонай вертыкалі. Але і тут захаваная міна запаволенага дзеяння: дэмакратаў перамагчы можна, асабліва калі дзейнічае сацыяльная дамова — улада ўзамен на стабільнасць. Якія там справядлівыя выбары, калі ў лядоўні поўна? Ці багата хто захоча сядзець у засценках за абстрактныя «правы чалавека» ці абяцанні рэформаў?

З нацыяналістамі — складаней. Якія б добрыя дарогі ні будаваліся, як бы ні раслі заробкі ў «хлебныя» гады, ім усё адно няймецца: «Беларусь мае быць беларускай!» І нічога тут не паробіш. Зміцер Дашкевіч некалі казаў, што прыйшоў у пратэстны рух менавіта праз змену нацыянальнай сімволікі ў 1995-м. Маладога яшчэ будучага палітыка, палітвязня і «вулічнага байца» абурыла падмена натуральных рэчаў, якія ёсць у кожнай дзяржаве, на бутафорыю. А калі ў чалавека забіраюць нешта натуральнае, як паветра, — выбару няма: трэба ісці да апошняй мяжы...

Міраслаў Лазоўскі, адзін з ключавых фігурантаў «Справы патрыётаў», неаднойчы казаў: «Мне няма розніцы да прозвішча прэзідэнта, галоўнае — незалежнасць». Упэўнены, што такой пазіцыі трымаецца абсалютная большасць хлопцаў, якім зараз шыюць 287-ы артыкул. Натуральная рэч — незалежнасць. Тыя, хто без грошай і спадзеваў на высокія пасады будзе яе бараніць, — залаты фонд нацыі: не здрадзяць, не разбягуцца, не здадуць. Але жне: «нацыяналіст» для ўладаў па-ранейшаму вораг. А як інакш? Прагаласаваў жа народ яшчэ ў 1995-м...

Вядома, той рэферэндум быў зроблены як пад замову Расіі, так і пад замову сацыяльную: Лукашэнка адчуў народ з ягонай настальгіяй па СССР і бязмежнай любоўю да «старэйшага брата». Адчуў — і сыграў. Але ведаць псіхалогію «простага чалавека» — гэта яшчэ далёка не ўсё ў палітыцы. Трэба троху далей глядзець, на крок наперад.

І тут Лукашэнка прайграў — выкінуў адразу ўсе карты. Можна ж было і гайкі заціскаць, і з Расіяй фліртаваць, але пры гэтым умацоўваць нацыянальны складнік, нават з прагматычных пазіцыяў, каб больш упэўнена пачувацца сябе ў гульні. Урэшце, ёсць прыклад Казахстану, дзе кіраўнік і Пуціну руку ціснe, і мову з кірыліцы на лацінку пераводзіць, нібы кажучы: «Мы — іншыя. Тут не «русский мир».

Тактычна Лукашэнка ў 1995-м перамог, стратэгічна — прайграў. Але ці ён адзін? Прайграла ўся Беларусь разам з мёртвымі, жывымі і ненароджанымі — уся нацыя ў перспектыве прасторы і часу. Вяртацца на нацыянальныя пазіцыі для Лукашэнкі зараз — нібы здрадзіць самому сабе, пакінуць усё, як ёсць, — згубіць краіну. Цяжкі выбар, дылема. Але ці бывае па-іншаму ў складаныя часы?

**Алесь Кіркевіч**
**"Новы Час"**




НАША ЎЛАДА

# КАК ВЫГЛЯДИТ НАСТОЯЩЕЕ «СТЫДОБИЩЕ» ЛУКАШЕНКО

**Зацепило! Почему «стыдобище» в спорте главу государства интересует больше, чем «стыдобище» в экономике? Как ни тужились идеологи создать 9 мая что-то «прыкрасное» по всем канонам официоза, Александра Лукашенко больше волновали 5-я колонна, деревня и хоккей.**

Пока натренированные гимнасты в гимнастерках упражнялись в стойке «делай раз, делай два», главнокомандующий и его свита тоже пытались сымитировать что-то победоносное. Так сказать, под стать торжеству момента.

Только вот получилось не очень. Бравурные песни и пляски так и не смогли зажечь огня в душе главного потребителя этой праздничной феерии. Он был грустен и безучастен.

Что хотели услышать от Лукашенко белорусы? По крайней мере те, кто еще рассчитывает на какие-то слова. Наверняка, думали, что руководитель выйдет к народу, подбодрит и заверит, что главные победы у нас еще впереди и мы обязательно по примеру наших славных предков преодолеем все свалившиеся на нас (не будем уточнять благодаря кому) беды.

А что услышали? В своей торжественной речи Лукашенко рассказал про врагов, которые окопались вокруг наших границ, про 5-ю колонну, которая лелеет свои коварные планы, и про земной шар в огне. А после торжественной речи и вовсе удивил всех.

Выяснилось, что главу государства больше интересует, «как можно было пропустить с „пятака" третью шайбу от финнов», нежели проблемы, с которыми столкнулась наша страна. Упадок в экономике, нищета, отсутствие нормальной работы и перспектив... Нет, все это не нашло отражения в речах руководителя. Он прямо дал понять, что «стыдобище» в спорте его волнует значительно больше, чем стыдобище в экономике. Глава государства готов был взахлеб рассказывать, как надо пасовать и пробивать, и абсолютно не парился по поводу собственных побед. Вернее, их отсутствия.

Интересы белорусов и Лукашенко в этот день (да и не только в этот) явно разошлись. Пока одни думали, как найти работу в городе, где единственное предприятие ввиду бездумной государственной политики стало банкротом, другой придумывал новый способ, где еще закопать деньги, решив пустить их на умирающие деревни.

Пока одни ужасались собственным бедственным положением, другой рассказывал о тяжелых буднях мигрантов в Европе.

Слушая речи президента, глядя в его усталые, без малейшей надежды и интереса глаза, думаю, многие в этот момент думали про «стыдобище». Только не про то, о котором вещал Лукашенко.

Потому что «стыдобище» — это не когда ты не забиваешь в ворота противника, а когда более 20 лет топчешься на одном месте, называя это «особенным курсом».

«Стыдобище» — это не когда ты пасуешь не туда, а когда экономика твоей страны пасует, потому что не может существовать без субсидий соседнего государства, а иного способа управления ты не знаешь.

«Стыдобище» — это не когда ты теряешь шайбу, а когда ты теряешь людей, которые уезжают из страны в поисках нормальной жизни, потому что тут у них забрали не только возможность заработать, но и надежду на лучшее будущее.

Все это и есть настоящее стыдобище. Только вот стыдно ли его главному организатору?

**Светлана Метёлкина**
**http://gazetaby.com**

ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

# ПРАЕЎРАПЕЙСКУЮ МОЛАДЗЬ САБРАЎ ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

**Лекцыі экспертаў, віктарына пра ЕЗ і кінапрагляд — Рух «За Свабоду» зладзіў трэці Дзень Еўропы у Мінску.**

Адкрыў Дзень Еўропы эканаміст Сяргей Чалы лекцыяй «Ці можа Беларусь стаць „Кіпрам"». У ёй ён разабраўся, на якім месцы знаходзіцца беларуская эканоміка ў Еўропе, і якія нашыя перспектывы.

«Пры ўсіх размовах пра крызіс толькі дзве краіны не „растуць" у нашым рэгіёне — Беларусь і Расія. Нашая эканоміка ўсё больш набывае рысы нафтавай эканомікі. Строга кажучы, так яно і ёсць. Праўда, мы здабываем нафту не ў зямлі, а ў Расіі», — адзначыў Чалы.

Ён чакае, што добрых перспектываў у беларускай эканомікі пакуль не шмат: «перад тым як будзе лепей, будзе горш».

«Беларусь патрэбная Расіі больш, чым Расія патрэбная Беларусі. Яны нам плацяць засталося дзевяцца, за што. А плацяць яны за вельмі дарагі тавар — анестэзію фантомных імперскіх боляў», — адзначыў эканаміст.

Удзельнікі разам з кінакрытыкам Максімам Жбанковым пагледзелі і абмеркавалі фільм «Бразілія» Тэры Гільяма. А кіраўнік Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, сябра Рады Руху «За Свабоду» Антон Астаповіч распавёў пра «Еўрапейскі кантэкст беларускай культуры».

«Трэба памятаць пра вялікі ўплыў рускай культуры і помніць пра польскі, але ніколі нельга закульвацца ў нейкі адзін бок. Мы этнас, культура, якая сфармавалася на зломе двух цывілізацыяў, і мы павінны захаваць сваю інтэнтычнасць. Калі будзем хіліцца ў адзін ці другі бок, то ёсць пагроза яе страты», — падкрэсліў Астаповіч.

«Дзень Еўропы — дата, якая звязаная з абвяшчэннем аб'яднання еўрапейскіх краінаў. Рух „За Свабоду" ладзіць свята як дзень міра, еднасці Еўропы», — адзначыў адзін з арганізатараў свята, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Кірыл Стаселька.

Па ягоных словах, Дзень Еўропы дапамагае зразумець беларусам, што яны з'яўляюцца еўрапейцамі

*(працяг на стар. 4)*

ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

(пачатак на стар. №3)

— не менш, чым жыхары краінаў, якія ўваходзяць у Еўрапейскі звяз.

«Еўрапейскасць фармуецца не толькі прыналежнасцю да ЕЗ, колькі адпаведнай ідэнтычнасцю, успрыняццём саміх сябе і навакольнай рэчаіснасці», — падкрэліў Стаселька.

Ён пазітыўна ацаніў само мерапрыемства, кажа, што атрымалася стварыць цёплую цікавую атмасферу.

«Дзень Еўропы — важнае мерапрыемства, бо мы еўрапейцы, культурна, па ўзроўні адукацыі», — адзначыла адна з арганізатараў, сябра Рады Моладзі Руху «За Свабоду» Вікторыя Таболіч.

Вікторыя асабліва адзначыла кінапрагляд, адзначыўшы, што фільм «Бразілія» прымусіў задумацца, і да яго яны з сябрамі вярнуцца яшчэ не раз.

**Вольга Быкоўская**

АДУКАЦЫЯ

# ВНАЧАЛЕ БУДЕМ УЧЕБНИКИ ПЕРЕПИСЫВАТЬ…

**Зацепило! Программу сократить, учебники — новые, уроки — с 9 утра, — требовал Лукашенко с трибуны. И все потому, что Коле сложно учиться и по утрам он не высыпается.**

— Спрашиваю у своего (сына — С.), ну как на первом уроке? Отвечает: «Ну, папа, ничего. Все спят и я там прикорну». Ну, слушай, ты же сын президента, нельзя так. Говорит, спать хочу, — рассказывал парламентариям и народу Лукашенко и возмущался: — Безобразие в школе!

Конечно, любой другой отец в этой ситуации просто положил бы своего сына пораньше спать. Но зачем? Президенту же легче перенести уроки для детей всей страны на час позже.

— И не смотреть, что родителям сложно в школу отправить ребенка, потому что они раньше идут на работу, — инструктировал Лукашенко.

И правда, чего на это смотреть, когда Коля не высыпается? Пусть уж 6-летний Ваня или 7-летняя Даша сами как-нибудь завтраками себя кормят и до школы доводят. Главное, что Коля теперь будет бодр и весел. Его же есть кому накормить и отвести!

Ну и программы, соответственно, надо подкорректировать. У нас ведь как? Учится Коля в 5-м классе — будем для 5 класса учебники переписывать, идет в 6-й — для 6-го исправим, в 7-м сложно — что ж, надо подстроиться. Какдо этого исправили в предыдущем, особо и не важно — Коле ж там уже не учиться.

С такими темпами мы сначала школьные программы перепишем, потом вузовские. А дальше что будем под Колю переписывать? Конституцию?

**Вероника Белова**

“ПАРАДАК”

# «В ДЕРЕВНЕ ОСТАЮТСЯ СЛАБЫЕ... »

**Экономист Леонид Заико — о планах главы государства навести порядок в деревне:".. пока в деревне убивают человека, там остается самый неэффективный человеческий капитал. И сколько туда сколько денег не вкладывай — будет труба."**

Накануне Александр Лукашенко заявил о том, что в Беларуси «будут восстанавливать небольшие деревни».

— Их надо приводить в порядок, — сказал он. — И если люди будут там жить, мы обязательно модернизируем, отремонтируем инфраструктуру для них. Мы будем делать это по всей стране.

Руководитель страны также добавил, что государство будет делать «все для того, чтобы эти деревеньки восстановить». В частности, планируется подвести к ним дороги, что предусмотрено госпрограммой по развитию сети местных дорог.

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико сомневается в успехе инициативы.

— Они сначала создали проблемы, а теперь хотят их решать, — заметил он в экспресс-комментарии «Салідарнасці». — Мне кажется, белорусская власть просто не понимает, что произошло в деревне. Она не имеет ни малейшего представления. Дело в том, что в Европе еще в средние века бедные крестьяне разорялись и уходили в города. А в сельской местности оставались самые сильные. В Беларуси и в России все было наоборот. С того времени, как началась коллективизация, самые сильные и умные начали уходить из деревень.

По мнению эксперта, главная проблема современной белорусской деревни в том, что там остался неконкурентный социальный материал:

— Если кто-то не верит, пускай посмотрит на личность Александра Григорьевича — он ведь из деревни ушел? Ушел. А остались там с большего самые слабые и неконкурентные. Пускай чиновники назовут имена своих детей, которые поехали в деревню работать. У кого из министров ребенок пошел работать в колхоз? Покажите мне этого человека.

По мнению Леонида Заико, в такой ситуации никакого смысла вкладывать деньги в деревню нет.

— Там надо заново создавать человеческий капитал. И никаких условий не надо — просто не трогайте людей. Отдайте им землю, у них найдутся и родственники, и друзья... Кто-то найдет наемных работников — все это люди могут сами сделать. Просто надо сделать то, что еще большевики обещали, но не исполнено до сих пор.

Вопреки распространенному мнению, частные фермеры могли бы успешно работать в Беларуси.

— Есть место не только крупным, но и мелким хозяйствам, которые будут иметь свою нишу. Можно выращивать ягоды, фрукты, картофель... А пока в деревне убивают человека, там остается самый неэффективный человеческий капитал. И сколько туда сколько денег не вкладывай — будет труба.

**Павел Рос**

**http://gazetaby.com**

ПОГЛЯД НА ГІСТОРЫЮ

# СТАЛІН — ПЕРАМОЖЦА ЦІ ЛУЗЭР?

**10 траўня, на другі дзень пасьля сьвяткаваньня Дня Перамогі, паглядзеў на тэлеканале «РТР-Беларусь» перадачу «Вечар з Уладзімірам Салаўёвым». Абмяркоўвалі пытаньне аб ролі Сталіна ў перамозе над фашысцкай Нямеччынай. Паводле сацыялягічных апытаньняў, каля паловы грамадзян РФ станоўча ацэньваюць ролю генэралісімуса ў Вялікай Айчыннай вайне. І ўдзельнікі перадачы Салаўёва ў большасьці падзялялі такі погляд. Галоўны аргумэнт такі: а як яшчэ можна ацэньваць ролю Вярхоўнага галоўнаначальніка войска, якое атрымала такую вялікую перамогу? Пытаньне пра цану перамогі пры гэтым неяк згубілася.**

Успомніўшы, што я паводле сваёй першай прафэсіі гісторык, вырашыў нагадаць некалькі тэзаў да ролі Сталіна ў вайне. Найперш два факты. У Першай сусьветнай вайне немцы змаглі акупаваць толькі невялікую частку Расейскай імпэрыі (да бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 году). Лінія фронту праходзіла прыкладна пасярэдзіне сучаснай Беларусі. А ў Другой сусьветнай вайне, у час кіраваньня «вялікага палкаводца» Сталіна, немцы дайшлі да Масквы і Сталінграда.

Ніколі раней у гісторыі войнаў, якія вяла Расея, у яе не было так шмат палонных (каля 5 млн) і калябарантаў, якія ваявалі на баку ворага (1,5 млн).

Але вернемся да Сталіна. Напярэдадні вайны ім былі зроблены такія сур’ёзныя памылкі (іх можна назваць дзяржаўнымі злачынствамі), што яны сталі велізарнай трагедыяй для народаў СССР.

Найперш прыгадаем, што напярэдадні вайны была вынішчана большасьць каманднага корпусу Чырвонай Арміі, а таксама дзяржапарату, гаспадарчай, навуковай эліты. У шэрагу выпадкаў лейтэнанты пачалі камандаваць палкамі.

Безумоўна, тут не абысьціся без ацэнкі пакту Молатава — Рыбэнтропа. Я ня згодзен з распаўсюджанай думкай, што Сталін і Гітлер аднолькава вінаватыя ў разьвязваньні Другой сусьветнай вайны. Віна Сталіна ёсьць, як, дарэчы і кіраўнікоў Францыі і Англіі (Мюнхенская дамова). Але галоўная віна ўсё ж ляжыць на Гітлеру, які хацеў вайны, усімі сіламі дамагаўся яе, бо на гэтым грунтавалася ўся ягоная палітыка і ідэалёгія.

Тым ня менш, на мой погляд, пакт Молатава — Рыбэнтропа зьяўляецца стратэгічнай памылкай Сталіна. Найперш, адзначым, што гэта не дамова аб ненападзе, як дасюль падаецца ў нашых падручніках гісторыі. Бо былі ж яшчэ сакрэтныя пратаколы аб падзеле Ўсходняй Эўропы, а таксама дамова пра дружбу і мяжу ад 28 верасьня 1939 году. Фактычна гэта былі дамовы аб саюзе. У рэальнасьці ў 1939-1940 гг. СССР аказваў Нямеччыне эканамічную і дыпляматычную падтрымку агрэсіі ў Эўропе. Такім чынам, Сталін дапамог Гілеру захапіць краіны, якія маглі стаць (а ў канцы вайны насамрэч і сталі) саюзьнікамі Савецкага Саюзу ў вайне. У выніку 22 чэрвеня 1941 г. СССР апынуўся сам-насам зь Нямеччынай. А потым абураўся, чаму так доўга не адкрываецца другі фронт.

Гэтая памылка дасюль шмат кім трактуецца ў Расеі як мудры крок і вялізны дыпляматычны посьпех СССР. А ў чым мудрасьць?

Маўляў, гэтым пактам Сталін разбурыў магчымасьць стварэньня «адзінага імпэрыялістычнага фронту» супраць СССР. Але саюз Францыі, Англіі (магчыма, ЗША) і гітлераўскай Нямеччыны быў немагчымы ў прынцыпе. Паміж імі былі нятольк непрымірымыя геапалітычныя, але і мэнтальныя, псыхалягічныя (памяць аб Першай сусьветнай вайне і інш.) супярэчнасьці. Аднак савецкае кіраўніцтва кіравалася дагматычным клясавым падыходам, паводле якога капіталістычныя краіны могуць лёгка аб’яднацца дзеля зьнішчэньня такой ненавісьнай ім пралетарскай дзяржавы.

Ці вось яшчэ аргумэнт. Маўляў, пакт Молатава — Рыбэнтропа адцягнуў пачатак вайны на два гады, дазволіўшы СССР лепш падрыхтавацца да вайны.

Але, па-першае, у 1939 годзе вайна з СССР у пляны Гітлера не ўваходзіла. Бо суадносіны сілаў у той момант былі на карысьць Савецкага Саюзу. А вось гэтыя два гады Гітлер скарыстаў лепш, чым Сталін, і ў 1941 годзе Нямеччына была больш гатовая да вайны, чым СССР.

А тое, што адбывалася апошнімі месяцамі перад вайной, не паддаецца ніякай нармальнай лёгіцы. Тое, што Гітлер зьбіраецца напасьці на СССР, канцэнтруе каля савецкай мяжы вялізную колькасьць войскаў, ведала, здаецца, уся Эўропа. Бо як гэта можна было схаваць? Пра гэта ведалі ўсе камандзіры і вайскоўцы тых частак, якія стаялі каля мяжы. Бо кожны дзень пра гэта сьведчылі ўсё новыя факты.

І толькі адзін чалавек у гэтую пагрозу катэгарычна ня верыў, адрынаў усе факты, забараняў камандзірам пад страхам рэпрэсій прымаць захады ўмацаваньня баяздольнасьці сваіх падразьдзяленьняў, каб «не справакаваць немцаў»! На няшчасьце, гэты чалавек быў неабмежаваным дыктатарам. У выніку войскі сустрэлі вайну дрэнна падрыхтаванымі, танкі і самалёты апынуліся бяз паліва і г.д.

Толькі адна з такіх памылак любому іншаму гістарычнаму дзеячу каштавала б таго, каб яго імя назаўсёды зганьбіць. Дарэчы, у Францыі і Вялікай Брытаніі палітыкі, што падпісалі Мюнхэнскую дамову, ацэньваюцца нэгатыўна. Але Расея — краіна зь гісторыяй, якая не прагназуецца.

**Валер Карбалевіч**

***“Радыё Свабода”***

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.05.2017 у 17.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.